Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 5 (113) Пятніца 9-га Сакавіка 1928 г. м. Вільня. Год III.

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень — Цана нумару 20 грош.

**Орган Незалежнай Дэмакратычнай Думкі.**

[illegible] цана на 1 месяц 1 зл.
" " " 3 " 2 зл.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністр. Wilno ul. Zawalna 6 m. 4, тэл. 14-35.
Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: На 1 старане — 20 гр.
" У тэксьце . — 40 гр.
" На 4 старане — 15 гр.
За кожны мілім. шырыны ў 1 шпальту.
Старана мае 8 шпальтаў.

## Пасьля выбараў.

Выбары да Сойму 4 сакавіка прынясьлі поўную перамогу Блёку Супрацоўніцтва з Урадам па усяму польскаму фронту. Польская Эндэцыя, Хадэцыя і Пяст панясьлі поўную паражку ў параўнаньні з папярэднімі выбарамі. Эндэкі разам з Хрыст. Нарадоваю Партыяй Дубановіча, меўшыя у папярэднім Сойме 120 пасалоў, здолелі правязьці цяпер заледзьві... 37. Блёк Пяста з Хадэцыяй заместа 114 — правялі толькі 38. Гэтак сама і Вызваленьне страціла 12 мандатаў, у той час як маленькі Клюб Працы, з якога выйшаў віцэ-прэм'ер Бартэль і маючы, толькі 5 паслоў, вырас у магутны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудзкага з агульным лікам каля 130 паслоў.

Выбары 4 сакавіка сьведчаць аб грунтоўнай перамене ў палітычным настроі польскіх масаў. Польскі грамадзянін да зёў сваю палітычную дасьпелась. Лёзунгі Маршалка Пілудзкага — „выпрадкі ў працы“ і „далоў партыйніцтва“, спаткалі на выбарах поўную спагадлівасьць. Відаць ўсім ужо абрыдла несканчальная і бязплодная клутня розных партыяў і групаў ў Сойме, зусім паралізаваўшых яго дзейнасьць і амаль ня зусім падарваўшых яго аўтарытэт і павагу, як народнага прадстаўніцтва. А значны ўдзел галасаваўшых на выбарах зьяўляецца лепшым запярэчаньнем таго, што быццам Польшча не дасьпела да парлямэнтарызму ў эўрапэйскім разуменьні гэтага слова, ня гледзячы на тое, што апошні запраўды быў значна скампрамітаваны х'ена — пястаўскаю анархіяй у папярэдніх Соймах.

Поўная перамога Безпартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудзкага з адначасоваю паражкаю Эндэцыі, Хадэцыі і Пяста аканчальна пазбаўляе ўсялякага ўплыву гэтых партыяў на агульны ход дзяржаўнага жыцьця ў Польшчы. Роля клерыкальна-шовіністычнае Эндэцыі ў Сойме і у краю ўжо скончана. Калі Блёку і прыдзецца з кім лічыцца, дык толькі з соцыялістамі, Вызваленьнем і нацыянальнымі меншасьцямі, якія лягчэй могуць знайці супольную мову між сабою, хаця нацыянальныя меншасьці гэтак сама выйшлі з выбараў са стратамі.

Надзея на тое, што прыняцьце чыннага ўдзелу ў выбарах украінцаў узмоцніць агульны фронт нац. меншасьцяў, не здзейсьнілася. Зашкодзіла ўсё тая-ж хвароба — партыйніцтва, ад якой польскае грамадзянства паволі вылечваецца.

Калі цяпер зьвернем увагу на беларускі фронт, дык забачым поўны правал выбараў. Заместа 25 — 30 паслоў, на якія беларусы маглі спадзявацца і рахаваць, правялі заледзьві... 9. Нават меньш, чым было ў папярэднім Сойме (12), ня гледзячы на тое, што палітычная сьведамасьць беларускага сялянства значна ўзрасла. Над прычынамі гэтага смутнага зьявішча непатрэбна застанаўляцца, як роўным чынам безкарысна ламаць цяпер над гэтым рукі. Зьняўшы галаву, па валасам ня плачуць.

Бачучы той разлад, узаемную барацьбу і поўную анархію, з якою йшлі на выбары розныя беларускія групы, можна было заранeй прадбачыць гэтую паражку. Перашкодаю на шляху да стварэньня агульна-беларускага фронту была прагавітасьць паасобных правадыроў беларускіх палітычных групаў да мандатаў, дый іх хваробныя асабістыя амбіцыі, ня сумерныя з іх удзельнаю палітычнаю вагою. Агульнае дабро, грамадзкасьць, служэньне Народу і іншыя лёзунгі, якімі спрытна жанглявалі беларускія павадыры, як клоўны ў цырку, былі толькі вопраткаю, пад якою хаваліся асабістыя мэты і інтарэсы. Калі-б яны запраўды змагаліся за гэтыя пекныя лёзунгі, дык заўсёды знайшлі бы супольную мову. Яшчэ шмат прыдзецца перацярпець беларускаму народу за палітычныя грахі сваіх павадыроў, пакуль не навучыцца адрожніваць звычайных палітычных спэкулянтаў ад запраўдных сваіх абаронцаў і барацьбітоў за лепшую будучыню Беларусі.

У адным толькі шчасьце, што гэтыя абмылкі беларускіх павадыроў пайшлі на карысьць ня польскай Эндэцыі, а Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудзкага, які цяпер мае магчымасьць зьвярнуць яшчэ большую ўвагу на наш край, чым да гэтай пары. Далейшае-ж ўсё залежыць ад таго, якую пазыцыю займуць нашыя маладыя і маладасьведчаныя паслы у Сойме.

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Радавая Расея перажывае новыя клопаты. З дзесятымі ўгодкамі істнаваньня радавага рэжыму, чрезвычайкі і чырвонай арміі, як галоўных падвалінаў гэтага рэжыму, саўпала ўпартая барацьба з апазыцяй і мара надходзячага новага голаду. З апазыцяй пакуль далі рады. Іншае пытаньне, ці на доўга. Галоўныя павадыры апазыцыі высланы ў „не столь отдаленныя места“. Але сама апазыцыя ў стране не зьліквідавана, апазыцыйны настрой не задушаны. Апазыцыянэры толькі прытаіліся, каб у адпаведны момэнт зноў выступіць на сцэну. Гэткім чынам сталы страх перад апазыцыяй прымушае кліку Сталіна зьвяртаць асаблівую увагу на адзіныя падваліны свайго уладаньня — чрэзвычайку і чырвоную армію.

Але з юбілейнымі сьвяткаваньнямі дзесятых угодкаў чырвонае арміі выйшлі дужыя няпрыемнасьці. Шчырыя прамовы на ваенных парадах бальшавіцкіх павадыроў і чырвоных гэнэралаў у прысутнасьці загранічных сьведкаў зрабілі вельмі няпрыемнае уражэньне на заграніцу. Уяўніўся выразна агрэсыўны характар чырвонай арміі, што зусім пярэчыць папярэднім пацыфістычным выступленьням прадстаўнікаў радавага ўраду на міжнародовым тэрэні. Хутка зноў адчыніцца ў Жэнэве конфэрэнцыя па пытаньню аб агульным разбраеньні, на якую будуць допушчаны і радавыя прадстаўнікі. Літвінаў зноў будзе агітаваць за агульны мір і разбраеньне, ў той час, як у Расеі стаіць мільёнаная армія пад ружжом не для таго, каб бараніць „сацыялістычную бацькаўшчыну“ проці сьвятовых імпэрыялістаў, але наадварот. Бальшавіцкія правадыры цяпер зусім выразна акрэсьлілі ролю чырвонае арміі: гэта узброенная сіла сьвятовага пралетарыяту, які можа заўсёды спадзявацца і рахаваць на яе ў выпадку рэвалюцыі. Ці трэба тлумачыць тое, якою небясьпекаю зьяўляецца чырвоная армія для суседзяў радавае Расеі і якою перашкодаю ў наладжаньні узаемаадносінаў між імі.

Адначасова ўся Расея перажывае хлебны крызыс. Прадбачыцца недахоп хлеба да навага ураджаю. Пачаўся новы спагон хлеба, як у часы ваеннага камунізму ў 1918 г. Гэта выклікае новую хвалю незадаволенасьці сялянаў. У гарадох адчуваецца недахоп спажывецкіх прадуктаў. Перад каапэратывамі стаяць доўгія хвасты, як у часе вайны. Пануе агульная трывога і руплівасьць за заўтрашні дзень. Усе гэта разам узятае аканчальна зьбівае з ног радавыя ўлады, якія ня ведаюць, як выйці з зачараванага кола палітычна гаспадарчых клопатаў.

Заходня-эўрапэйскі палітычны небасхіл крыху зацямніўся аўстрыйска-італьянскім канфліктам, які на шчасьце ня прыняў паважнае формы. У аўстрыйскім парлямэнце было закранута пытаньне аб прасьледаваньні і ўціску італьянцамі тырольскіх немцаў. Мусаліні прыняў гэта за ўмяшацельства ў унутраныя справы Італіі з боку Аўстрыі і нават адклікаў з Вэны свайго пасла. Але дзякуючы тактоўнасьці аўстрыйскага прэм'ера Зэйпеля гэты канфлікт уступіў на шлях мірнага уладжаньня.

Вялікім крокам на шляху уладжаньня міжнародовых адносінаў зьяўляецца падпісаньне французка-гішпанскай згоды аб Танжэры, гэтым новым вузле міжнародовых непаразуменьняў. Як у Парыжу, гэтак і у Мадрыдзе вельмі задаволены дасягнутаю згодаю. Цяпер застаецца толькі пагадзіць гэтую згоду з англійскімі і італьянскімі інтарэсамі. Што датычыць Англіі, дык яе адносіны да французка-гішпанскай згоды даволі прыхільныя. Няведама толькі, якую пазыцыю ў гэтым пытаньні займе Мусаліні.

N.

## Вынікі выбараў да Сойму 4 Сакавіка

### Віленскі вокруг № 63.

Места ВІЛЬНЯ.

Меўшых права галасаваць . 108,444
Галасавала . . . . . . 72,309
Уневажнена . . . . . . 154 гал.

### Віленска-Троцкі павет.

Меўшых права галасаваць . 93,296
Галасавала. . . . . . 63,510
Уневажнена . . . . . . 3,603

№ 1. Блёк Супрацоўніцтва з Урадам 41,320 гал. – 2 мандаты (Мар'ян Зындрам - Косьцялкоўскі, Старшыня Партыі Клюбу Працы і Станіслаў Мацкевіч, рэдактар газ. „Słowo“).

№ 2. P. P. S. — 16,697 гал., без мандату.

№ 3. Вызваленьне 25,864 — 1 мандат, б. сэнатарка Карніцкая.

№ 18. Блёк Нац. Менш. — 1 мандат, жыд д-р Я. Выгодзкі

№ 24. Эндэкі — 20,033 — 1 мандат, б. пасол Звержынскі.

Разам . . 5 мандатаў.

### Лідзкі вокруг № 62.

7 мандатаў.

№ 1. — 61,121 гал. — 4 мандаты (Каз. Акуліч, Вл. Камінскі, Я. Шчэрба, Я. Лойко).

№ 25. — 17,600 — 1 мандат (Гарневіч).

№ 39. — 33,934 — 2 м. — (беларусы Я. Станкевіч і С. Волынец).

### Сьвенцянскі вокруг № 64.

6 мандатаў.

№ 1. — 37,589 гал. — 2 м. (Рачкевіч і Брокоўскі).

№ 2. 20,112 — 1 м. (Шлаўскі).

№ 18. — 55,569 — 3 манд. (бел. Каруза, Стэповіч, Юхневіч).

### Навагрэдзкі вокруг № 61.

6 мандатаў.

№ 1 — 53,933 г. — 3 мандаты (Э. Таўрогіньскі, К. Роулітоўскі, Я. Макржэцкі).

№ 39 — 3 мандаты (бел. А. Стогановіч, К. Сонэнь, І. Дварчанін).

### Горадзенскі вокруг № 6.

4 мандаты.

№ 1. — 50,371 — 3 мандаты.
№ 25. — 24,923 — 1 мандат.

### Пінскі вокруг № 60.

5 мандатаў.

№ 1. — 36,182 — 2 мандаты.
№ 39. — 18,925 — 1 мандат.
№ 8. — 13,261 — 1 мандат.
№ 18. — 11,875 — 1 мандат.

### Беластоцкі вокруг № 5.

5 мандатаў.

№ 1. — 45,431 — 2 мандаты.
№ 18. — 81,151 — 1 мандат.
№ 25. — 43,910 — 1 мандат.
№ 39. — 13,209 — 1 мандат.

